# ПЕРШЫ МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС ДАСЛЕДЧЫКАЎ БЕЛАРУСІ

## ПРАЦОЎНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ

Том 1, 2012



# THE FIRST INTERNARIONAL CONGRESS OF BELARUSIAN STUDIES

## WORKING PAPERS

Volume 1, 2012

ISBN 978-9955-12-804-5 (ONLINE)
ISBN 978-9955-12-803-8

Vytautas Magnus University

# Першы Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі

Працоўныя матэрыялы

Том 1 (2012)

# The First International Congress of Belarusian Studies

Working Papers

Volume 1 (2012)

Vytautas Magnus University Press
Kaunas, Lithuania, 2011

UDK 323.2(476)(063)
Fi319

# Першы Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі
Працоўныя матэрыялы
Том 1 (2012)

*Першы Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі адбыўся 23-25 верасня 2011 года ў Коўна (Літва)*



**Стыль-рэдуктура і карэктура**
Вольга Гапеева (беларуская і англійская мова)
Стэфанія Каліноўская (руская мова)
Максім Александровіч (англійская мова)
Томаш Блашчак (польская мова)

**Вёрстка і макет вокладкі**
Дзмітры Ісаеў

**Заснавальнікі і партнёры**
Інстытут палітычных даследаванняў "Палітычная сфера" (Беларусь)
Універсітэт Вітаўта Вялікага (Літва)
Інстытут Вялікага Княства Літоўскага (Літва)

Міжнародны Кансорцыум "ЕўраБеларусь" (Беларусь)
Беларускі інстытут стратэгічных даследаванняў (Беларусь)
Інтэрнэт-часопіс "Новая Эўропа" (Беларусь)
Сайт экспертнай супольнасці "Наше мнение" (Беларусь)
Часопіс "Arche" (Беларусь)
Еўрапейскі Цэнтр па пытаннях меншасцяў (Германія)
Інтэрнэт-выданне "BelarusDigest" (Вялікабрытанія)
Праграма "Лятучы ўніверсітэт" (Беларусь)
Фонд імя Конрада Адэнаўэра (Германія)
Агенцыя гуманітарных тэхналогій/Цэнтр сацыяльных інавацый (Беларусь)
Цэнтр усходняй палітыкі (Літва)

Выданне падрыхтаванае дзякуючы падтрымцы *Фонду ім. Конрада Адэнаўэра*



ISBN 978-9955-12-804-5 (online)
ISBN 978-9955-12-803-8

UDK 323.2(476)(063)
Fi319

# The First International Congress of Belarusian Studies
Working Papers
Volume 1 (2012)

*The First International Congress of Belarusian Studies was held on September 23-25, 2011 in Kaunas (Lithuania).*



**Proof-reading**
Volha Hapiejeva (Belarusian and English)
Stefanija Kalinoŭskaja (Russian)
Maksim Alieksandrovič (English)
Tomasz Błaszczyk (Polish)

**Design and Layout**
Dzmitry Isajeŭ

**Founders and Organizers**
*Political Sphere* Institute of Political Studies (Palityčnaja Sfiera) (Belarus)
Vytautas Magnus University (Lithuania)
Institute of the Grand Duchy of Lithuania (Lithuania)

*EuroBelarus* International Consortium (Belarus)
Belarusian Institute for Strategic Studies (Belarus)
*Novaja Eŭropa / New Europe* online magazine (Belarus)
*Našie Mnienije / Our Opinion* Expert Community web-site (Belarus)
*Arche* Journal (Belarus)
The European Centre for Minority Issues (Germany)
*BelarusDigest* online magazine (United Kingdom)
*Flying University* program (Belarus);
Agency of Humanitarian Technologies/ Centre for Social Innovations (Belarus);
*East Politics Centre* public institution (Lithuania)

The volume is published with support of *Konrad Adenauer Stiftung*



ISBN 978-9955-12-804-5 (online)
ISBN 978-9955-12-803-8

## Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі
## International Congress of Belarusian Studies
### Tarptautinis Baltarusijos tyrimų kongresas

Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі быў заснаваны 6 кастрычніка 2010 года ў г. Коўна (Літва) на сустрэчы прадстаўнікоў беларускай і літоўскай акадэмічнай і экспертнай супольнасці.

Кангрэс ініцыяваны як штогадовая сустрэча беларускіх і замежных навукоўцаў, экспертаў, аналітыкаў, прадстаўнікоў грамадскіх і дзяржаўных інстытуцый, якія займаюцца даследаваннем Беларусі.

**Місія Кангрэса** – развіццё супольнасці навукоўцаў, аналітыкаў і экспертаў, а таксама спрыянне больш глыбокаму разуменню Беларусі ў акадэмічным і грамадскім асяродку краіны, рэгіёну і свету.

Кангрэс бачыцца месцам прэзентацыі вынікаў працы навукоўцаў і экспертаў на працягу года. Акрамя гэтага, правядзенне Кангрэса з'яўляецца выдатнай магчымасцю для распрацоўкі новых жыццяздольных даследчых і грамадскіх праектаў, абмену меркаваннямі і ідэямі, усталявання нефармальных кантактаў. Кангрэс дазволіць сістэматызаваць веды пра Беларусь, а таксама заахвоціць практыку ўзаемнага супрацоўніцтва і камунікацыі.

Кангрэс разлічаны на ўдзел шырокага кола спецыялістаў з Беларусі, Еўрапейскага Саюза, Расіі, ЗША, Украіны і іншых краінаў свету.

Праца Кангрэса спалучае традыцыйныя пасяджэнні з арганізацыяй экспертных панэляў і грамадскіх дыскусій па актуальным тэмам беларускай палітыкі, культуры, грамадства, рэгіянальнага і міжнароднага супрацоўніцтва.

The International Congress of Belarusian Studies was founded at the meeting of Belarusian and Lithuanian scholars and experts in October 6, 2010 in Kaunas, Lithuania.

The Congress was initiated as an annual meeting of Belarusian and foreign scholars, experts, analysts and representatives of civil society and government institutions, which are involved in studying Belarus.

**The Congress' mission** is to promote a deeper understanding of Belarus in academic and civil communities of the country, region and world.

The Congress aims to become a place for presentation of outcomes of scholarly and expert activities, produced throughout the year. In addition, the Congress is an excellent opportunity to develop new research and community projects, to exchange views and ideas and to establish informal contacts.

The Congress combines traditional academic activities with expert panels and public discussions on topical issues of Belarusian politics, culture, society, regional and international cooperation.

2010 m. spalio 6 d. Kaune (Lietuva) susirinkę baltarusių ir lietuvių mokslininkai ir ekspertai nutarė surengti tarptautinį Baltarusijos tyrimų kongresą.

Tokie kongresai turėjo tapti kasmetiniais baltarusių ir kitų šalių mokslininkų, ekspertų, analitikų, visuomeninių organizacijų ir valstybinių institucijų atstovų, besidominčių Baltarusija bei atliekančių jos tyrimus, suvažiavimais.

**Kongreso misija** – išvystyti mokslininkų, analitikų ir ekspertų visuomenę, siekti geresnio Baltarusijos supratimo tarp akademinių ir visuomeninių centrų šalyje, regione ir pasaulyje.

Kongresas turėtų tapti mokslininkų ir ekspertų per metus atliktų darbų rezultatų pristatymo vieta. Taipogi kongresas gali būti puikia vieta, kur gimtų nauji tyrimų ar visuomeniniai projektai, būtų keičiamasi idėjomis ar užmezgami nauji neformalūs kontaktai.

Kongreso darbą nutarta organizuoti sukuriant įvairias ekspertų ir diskusijų darbo grupes, kuriose būtų gvildenamos aktualios baltarusiškos politikos, kultūros, visuomenės tyrimų, regioninio ir tarptautinio bendradarbiavimo temos.

Web: http://icbs.lt, http://icbs.palityka.org/
e-mail: icbs@palityka.org
Tel. (BY) + 375 29 673 32 96
Tel. (LT) + 370 68 63 11 46
Fax. + 370 37 20 38 58

# АСАБЛІВАСЦІ ІНТЭГРАЦЫІ ІМІГРАНТАЎ-МУСУЛЬМАН У СУЧАСНЫМ БЕЛАРУСКІМ ГРАМАДСТВЕ

**АЛЕГ АЛАМПІЕЎ**

***Анатацыя:*** У Рэспубліцы Беларусь адзначаецца рост колькасці імігрантаў з мусульманскіх краін. Гэты факт ставіць пытанне пра іх інтэграцыю. У асяродку выхадцаў з ісламскіх краін фіксуюцца значныя адрозненні ў каштоўнаснай сістэме і мадэлях паводзінаў. Найбольш істотныя адрозненні ў параўнанні з карэннымі жыхарамі Беларусі фіксуюцца ў ступені рэлігійнасці, сексуальных і шлюбных пытаннях, правасвядомасці, што з'яўляецца істотнай перашкодай да інтэграцыі імігрантаў з ісламскіх краін, для якіх уласцівы высокі ўзровень кансерватызму.

***Ключавыя словы:*** інтэграцыя, іміграцыя, іслам, каштоўнасці, нормы.

## PECULIARITIES OF INTEGRATION OF THE MUSLIM IMMIGRANTS IN THE MODERN BELARUSIAN SOCIETY

***Abstract:*** An increasing number of immigrants from Muslim countries is observed in the Republic of Belarus. This fact raises the question of their integration. The people coming from Muslim countries tend to have significant differences in their system of values and behavioral models. The most essential differences in comparison with the native inhabitants of Belarus are those in the degree of religiosity, sexual and marital matters, legal consciousness. And that is a serious obstacle for integration of the most conservative part of immigrants from Islamic countries.

***Keywords:*** Integration, Immigration, Islam, Values, Norms.

Паводле вынікаў перапісу насельніцтва 2009 года ў Рэспубліцы Беларусь, у параўнанні з папярэднімі, назіраецца тэндэнцыя па павелічэнні колькасці імігрантаў з арабскіх краін і Сярэднеазіяцкага рэгіёну (Национальный.., 2011: 8). Досвед сучаснай Еўропы паказвае, што найбольшыя складанасці ў інтэграцыі ўзнікаюць менавіта ў выпадку імігрантаў з мусульманскіх краінаў, паколькі сістэма ўспрымання і ацэньвання і сістэма ажыццяўлення практык у ісламскім грамадстве істотна адрозніваюцца ад еўрапейскіх.

Даследаванне, праведзенае у маі – ліпені 2011 года метадам глыбіннага інтэрв'ю 24 імігрантаў з арабскіх краін, Ірана і Туркменістана, што жывуць у Беларусі ад 2 месяцаў да 15 год, дазволіла выявіць найбольш істотныя адрозненні ў каштоўнасных арыентацыях імігрантаў-мусульман і беларусаў, і выявіць асаблівасці інтэграцыі выхадцаў з ісламскіх краін у беларускім грамадстве.

Пад інтэграцыяй імігрантаў разумеецца працэс уключэння індывіда замежнага паходжання ў сацыяльнае, палітычнае і культурнае жыццё прымаючага грамадства.

Імігранты-мусульмане значна больш рэлігійныя ў параўнанні з асноўнай масай насельніцтва Беларусі і імкнуцца, прынамсі ў пэўных сітуацыях, прытрымлівацца прадпісанняў ісламу. Аднак пры гэтым важна адзначыць, што ступень рэлігійнасці значна вагаецца ў залежнасці ад краіны паходжання і асяродку сацыялізацыі. Найбольш рэлігійныя – выхадцы з Пакістана, найменей – з былых краінаў Савецкага Саюза, што зазналі досвед секулярызацыі ўсіх бакоў жыцця. Для многіх з іх веравызнанне з'яўляецца неабходным элементам ідэнтычнасці, але пры гэтым нельга казаць пра тое, што адзіная ісламская ідэнтычнасць працуе як сродак падзелу навакольнага сацыяльнага асяроддзя на "сваіх" і "чужых". Для большасці веравызнанне не з'яўляецца істотным фактарам у наладжванні асабістых стасункаў.

Выхадцы з ісламскіх краін выяўляюць больш кансерватыўныя за беларусаў погляды ў пытаннях сямейнага і інтымнага жыцця, выказваюць адмоўнае стаўленне да пазашлюбных сувязяў. Але на практыцы гэтага прадпісання прытрымліваюцца далёка не ўсе. Многія адмаўляюць гендарную роўнасць як на ўзроўні сям'і, так і грамадства, прычым як мужчыны, так і жанчыны. Значным адрозненнем ад беларусаў з'яўляецца легітымацыя гвалту ў сям'і ў дачыненні да жонкі, што сустракаецца даволі часта, прычым некаторыя жанчыны-мусульманкі таксама лічаць гэта нармальным. Для многіх прыналежнасць патэнцыйнага мужа альбо жонкі да ісламскага веравызнання з'яўляецца прынцыповым момантам.

Істотныя адрозненні ў каштоўнасных арыентацыях фіксуюцца ў сферы правасвядомасці. Некаторым уласціва легітымнасць прымянен-

ня пазаправавых, у тым ліку гвалтоўных, сродкаў вырашэння спрэчных пытанняў і канфліктных сітуацый. Гэта характэрна для выхадцаў з Сярэдняй Азіі, Азербайджана і (у меншай ступені) арабскіх краін.

Нягледзячы на перажыты досвед секулярызацыі сацыяльнай і культурнай прасторы, у выхадцаў з краін былога Савецкага Саюза захоўваецца такая істотная рыса, як калектывізм, у меншай меры ўласцівая імігрантам з астатняй часткі ісламскага свету, нягледзячы на больш высокі ўзровень рэлігійнасці апошніх. Гэта можа сведчыць пра большы ўплыў свецкай заходняй культуры ў гэтых краінах на працягу доўгага часу ў параўнанні з краінамі былога Савецкага Саюза, у якіх калектывізм традыцыйнага грамадства быў заменены калектывізмам грамадства савецкага, не зазнаўшы пры гэтым сутнаснай трансфармацыі.

Даследаванне выявіла залежнасць паміж узроўнем адукацыі і стаўленнем да рэлігійнай традыцыі. Больш высокі ўзровень адукацыі звычайна (але не заўсёды) адпавядае больш крытычнаму і рацыяналізаванаму стаўленню да выканання рэлігійных прадпісанняў і наадварот.

Стаўленне беларускага грамадства да сябе імігрантамі з ісламскіх краін адзначаецца як станоўчае. Многія адзначаюць, спасылаючыся на ўласны досвед, што адносіны карэнных жыхароў да іншаземцаў, у тым ліку да мусульманаў, нашмат лепшае, чым у іншых краінах, асабліва ў Расіі. Пры гэтым амаль усе маглі назваць асобныя прыклады праяўлення непрыязнасці з боку мясцовага насельніцтва. Адзначаюць існаванне ў беларускім грамадстве негатыўнага стэрэатыпу мусульманіна, прычынай чаго бачаць сітуацыю ў інфармацыйнай прасторы ў дачыненні да мусульман і ісламу ўвогуле.

Многія імігранты-мусульмане сутыкаюцца з сур’ёзнымі цяжкасцямі на шляху ўключэння ў беларускае грамадства. Хуткасць інтэграцыі ў значнай ступені залежыць ад першапачатковага ўзроўню рэлігійнасці і ступені адукаванасці іміграната. Напрыклад, для найбольш рэлігійных з’яўляецца непрымальнай сексуальная разняволенасць беларускага грамадства. Меней рэлігійныя асобы і асобы з больш высокім узроўнем адукацыі звычайна нашмат прасцей інтэгруюцца ў беларускі асяродак.

***Бібліяграфія***

1. Национальный статистический комитет Республики Беларусь (2011). Перепись населения, 2009. Т. 3: Национальный состав населения Республики Беларусь. Минск.

# ПОЛЬСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ МЕНШАСЦЬ НА БЕЛАРУСІ ЯК ДАСЛЕДЧЫЦКАЯ ПРАБЛЕМА

АНДРЭЙ ЦІХАМІРАЎ

***Анатацыя:*** Апісваюцца асноўныя аспекты даследавання польскай нацыянальнай меншасці ў сучаснай Беларусі. Асаблівая ўвага надаецца пытанням ідэнтычнасці, адносінам ўлады да палякаў на Беларусі і розным аспектам функцыянавання польскіх арганізацый, а таксама адносінам Беларусі і Польшчы ў кантэксце польскай меншасці. Робіцца акцэнт на магчымых кірунках даследавання польскай меншасці, у тым ліку на параўнаўчы аналіз становішча палякаў у суседніх краінах – Літве, Латвіі і Украіне.

***Ключавыя словы:*** меншасць, ідэнтычнасць, культура, Беларусь, палякі.

## THE POLISH MINORITY IN BELARUS AS A RESEARCH PROBLEM

***Abstract:*** The article describes the main aspects of the study of the Polish minority in today's Belarus. Particular attention is paid to the issues of identity, relations of authorities to Poles in Belarus and various aspects of the functioning of Polish organizations, as well as relations between Belarus and Poland in the context of the Polish minority. The work focuses on the possible directions for research of the Polish minority, including the comparative analysis of the situation of Poles in the neighbouring countries – Lithuania, Latvia and Ukraine.

***Keywords:*** Minority, Identity, Culture, Belarus, Poles.

Праблематыка гісторыі і сучаснасці нацыянальных меншасцей на еўрапейскім абшары застаецца вельмі важнай даследчыцкай праблемай. У беларускім выпадку адносіны паміж рознымі сацыяльнымі групамі ў грамадстве (у тым ліку нацыянальнымі, рэлігійнымі і іншымі меншасцямі) з'яўляюцца аднымі з важных ва ўмовах існавання незалежнай дзяржавы.

Польская нацыянальная супольнасць на Беларусі падаецца цікавым выпадкам для аналізу па некалькіх прычынах. Перадусім гэта трэцяя па колькасці нацыянальная група ў краіне (пасля беларусаў і Расійцаў)[1], палякі жывуць на беларускіх землях некалькі стагоддзяў і ў некаторых раёнах з'яўляюцца кампактнай групай з дастаткова трывалымі ўласнымі сацыяльнымі інстытутамі. Палякі таксама займаюць выразнае месца ў бачанні свету беларусамі: існуюць даволі трывалыя стэрэатыпныя ўяўленні пра польскую меншасць (Навуменка, 2002: 188–189), якія маюць, з аднаго боку, традыцыйны характар, а з іншага – могуць быць вынікам сацыяльных і палітычных працэсаў апошніх 20 год.

Польская меншасць як даследчыцкая праблема мае некалькі важных аспектаў. Адной з галоўных выступае праблема азначэння і навуковай кваліфікацыі польскага насельніцтва Беларусі. Існуе некалькі даследчыцкіх падыходаў да гэтай праблемы, асноўныя з іх можна апісаць наступным чынам:

1. Палякі як нацыянальная меншасць на Беларусі (без адмовы іх польскай самаідэнтыфікацыі);
2. Насельніцтва з нявызначанай ці змешанай ідэнтыфікацыяй, якое насамрэч з'яўляецца беларускім з рыма-каталіцкім веравызнаннем (гэты падыход адзін з найбольш распаўсюджаных і мае дастаткова доўгую гістарычную традыцыю);
3. Частка польскай нацыі па-за межамі Польшчы (падыход у нечым падобны да першага, але падкрэслівае мінімальную повязь гэтага насельніцтва з Беларуссю);
4. Палякі як асобны субэтнас (гэты падыход звязвае польскую супольнасць на Беларусі з польскім насельніцтвам Літвы, галоўным чынам Віленшчыны ў сувязі са шматлікімі гістарычнымі повязямі паміж імі і доўгім перыядам існавання ў адной геаграфічнай і палітычнай прасторы – Расійскай імперыі, Другой Рэчы Паспалітай і Савецкім Саюзе, дзе да 1991 г. межы паміж большасцю палякаў Літвы і палякамі Беларусі былі толькі адміністрацыйнымі). Тут таксама падкрэсліваецца сувязь паміж польскім насельніцтвам, беларускай і літоўскай этнічнай

[1] Па выніках перапісу насельніцтва Беларусі ў 2009 г. да польскай супольнасці належала 294 549 асоб, ці 3,1 % насельніцтва краіны. У параўнанні з перапісам 1999 г. колькасць палякаў скарацілася амаль на 100 тыс. чалавек.

большасцю, якая, на думку часткі даследчыкаў, большая, чым паміж палякамі Беларусі і польскім насельніцтвам Польшчы.

Пералічаныя падыходы з'яўляюцца дастаткова ўмоўнымі, бо іх асобныя элементы могуць спалучацца і паказваць на розныя аспекты разглядаемай тэматыкі. Важным элементам у вызначэнні польскага насельніцтва з'яўляюцца крытэрыі прыналежнасці да польскасці: перадусім розныя ступені прыналежнасці да польскай культуры і нацыянальнай традыцыі, веданне польскай мовы, польская самаідэнтыфікацыя.[2] Сярод гэтых крытэрыяў адным з галоўных выступае прыналежнасць да рыма-каталіцкага касцёла, які ў вялікай ступені захоўвае характар польскай нацыянальнай рэлігійнай структуры (прынамсі ў заходніх рэгіёнах краіны), але на сённяшні дзень імкліва набывае вернікаў сярод іншых нацыянальнасцей і паступова становіцца больш беларускім, асабліва ва ўсходніх рэгіёнах (Gorbaniuk i Gorbaniuk, 2005: 7–24).

Сярод важных элементаў трэба таксама ўлічваць геаграфічны фактар размяшчэння польскага насельніцтва, які ўплывае на ступень захавання польскай саматоеснасці. Кампактнае пражыванне спрыяе захаванню сацыяльных інстытутаў (сям'і, арганізацый, рэлігійных структураў). Блізкасць да межаў Польшчы і магчымасць большых кантактаў з ёй і польскімі медыямі ўзмацняюць прыналежнасць да польскасці і таксама ўплываюць на ступень захаванасці польскай ідэнтыфікацыі і гістарычнай памяці (Донских, 2004: 73–90).

Другім аспектам выступаюць адносіны розных палітычных і інтэлектуальных сіл да польскай нацыянальнай меншасці. Асноўным тут выступае дыскурс улады (афіцыйных структураў улады, блізкіх да ўлады аналітыкаў, інтэлектуалаў, якія фармуюць магчымыя погляды і стратэгіі ў дачыненні да разглядаемай меншасці), якая на працягу 20 год незалежнасці Беларусі па-рознаму ставілася да беларускіх палякаў. Змены ва ўладным дыскурсе залежалі не толькі ад ўнутраных фактараў, але і ад знешнепалітычнай сітуацыі краіны і адносінаў з Польшчай і Еўрапейскім Саюзам. Уладны дыскурс змяняўся ад адмовы польскай ідэнтычнасці праз асцярожную зацікаўленасць і да прызнання палякаў адной з нацыянальных меншасцей, якая захоўвае лаяльнасць да дзеючай на Беларусі ўлады. Знешнепалітычны фактар для ўладнага стаўлення адыгрывае вельмі істотную ролю і часам спрычыняецца да разгортвання канфліктных сітуацый вакол польскай меншасці (найбольш яскравымі прыкладамі з'яўляюцца канфлікт вакол Саюза

[2] Літаратуры на гэтую тэму ўжо дастаткова шмат, можна пералічыць толькі некаторыя працы: Kabzińska, 1999; Kruczkowski, 2003; Пушкін, 2007; Problemy świadomości..., 2003; Problemy świadomości..., 2004; Problemy świadomości..., 2005.

палякаў на Беларусі, які, фактычна, цягнецца з 2004–2005 гг.[3] і праблема “карты паляка”).

Апрача ўладнага дыскурсу, важным элементам ёсць стаўленне незалежных ад улады структур (палітычных, культурных, грамадскіх), якія ў той ці іншай ступені пазіцыянуюць сябе ў якасці апанентаў палітычнага рэжыму. Стаўленне да палякаў у гэтых асяродках таксама мае свае гістарычныя перадумовы і пэўную эвалюцыю ад прызнання іх у якасці спаланізаваных беларусаў-каталікоў да згоды на іх уласную ідэнтычнасць і разгляд іх у якасці магчымага фактара ўзмацнення антыўладных настрояў. Для гэтай групы польская меншасць цікавая перадусім сваёй большай скіраванасцю на Захад (часам больш ўяўленай, чым рэальнай) і сярэднееўрапейскай ідэнтычнасцю, і, адпаведна, меншай скіраванасцю на інтэграцыю з Расіяй і на агульную настальгію па савецкім мінулым.

Польская меншасць на Беларусі выступае адначасна як чыннік плённага супрацоўніцтва ў беларуска-польскіх адносінах, але таксама можа быць канфліктным фактарам, асабліва ў кантэксце геапалітычных выбараў беларускай улады. Трэба таксама адзначыць ролю СМІ, якія выступаюць сродкам фармавання стаўлення ўлады да меншасці, асабліва гэта тычыцца польскіх медыяў, якія ўплываюць на польскую палітычную эліту і масавую свядомасць і тым самым на палітыку ў дачыненні да беларускіх палякаў. Беларускія медыі рэагуюць, хутчэй, на сігналы з польскай медыя-прасторы, і амаль заўсёды гэтая рэакцыя дастаткова запозненая і залежная ад ўлады. Часта медыі абедзвюх краін выкарыстоўваюцца ў якасці ўзмацняльнай сілы для існых стэрэатыпаў.

Трэцім аспектам праблемы можа быць гістарычны кантэкст сітуацыі польскай супольнасці. Асэнсаванне сябе ў якасці “палякаў на Беларусі” (ці “беларускіх палякаў”) адбываецца перадусім у сувязі з існаваннем незалежнай беларускай дзяржавы. Фактар дзяржаўнай прыналежнасці для большасці польскага насельніцтва (як насельніцтва памежжа) выступае адным з фактараў ідэнтыфікацыі (Maźko, 2006: 90–95). Прыналежнасць да розных дзяржаўных арганізмаў наклала свой адбітак на розныя аспекты існавання палякаў на Беларусі. Адным з важнейшых момантаў была прыналежнасць беларуска-літоўскіх зямель да Расійскай імперыі і стварэнне выразнага негатыўнага антыпольскага стэрэатыпа ва ўладным дыскурсе і гістарыяграфіі (Кручковский, 2011). Агульны рэпрэсіўны характар расійскай палітыкі пасля падаўлення паўстання 1863 г. стаўся адным з прыкладаў для далейшай палітычнай практыкі ў пазнейшыя часы, асабліва ў савецкі час. Існаванне польскіх супольнас-

[3] Больш падрабязна на гэтую тэму: Gawin, 2003; Gawin, 2010; Winnicki і Gawin, 2009 Winnicki і Gawin, 2010.

цей ў міжваенны час ў розных дзяржавах – Другой Рэчы Паспалітай і БССР прывяло да адрознага гістарычнага вопыту гэтых групаў (Мазько, 2004: 300–306). Польская палітыка выразна ўзмацняла польскую свядомасць, савецкая – на пачатку спрыяла фармаванню новых "савецкіх палякаў", а пазней перайшла да рэпрэсіўнай практыкі. Перыяд пасля Другой сусветнай вайны адзначаўся практычна поўнай немагчымасцю развіцця ўласнай этнічнай ідэнтычнасці для палякаў БССР, а афіцыйная рыторыка падкрэслівала беларускасць гэтай групы і штучны характар яе польскай самаідэнтыфікацыі. У адрозненне ад палякаў у Літве ці Украіне, беларускія палякі не мелі ўласных этнічных інстытуцый і магчымасці вывучаць польскую мову. Адзінай грамадскай інстытуцыяй быў каталіцкі касцёл і дастаткова моцныя на той час сямейныя сувязі.

Палітычныя і эканамічныя змены ў СССР стварылі магчымасць для артыкуляцыі патрабаванняў польскага насельніцтва на Беларусі і стварэння арганізаваных і стабільных структур, якія пачалі прадстаўляць іх інтарэсы. На сённяшні дзень існуе некалькі польскіх грамадскіх арганізацый, найбольш уплывовымі сярод якіх з'яўляюцца Саюз палякаў на Беларусі (фактычна ад 2005 г. існуюць дзве арганізацыі пад такой назвай, прычым адна прызнаецца беларускімі ўладамі, а другая – толькі ўладамі Польшчы) і Польская Маці Школьная[4], некалькі грамадскіх школаў па вывучэнні польскай мовы і культуры, дзве дзяржаўныя школы з польскай мовай навучання, кафедры ці аддзяленні польскай філалогіі ў вышэйшых школах, бібліятэкі, прэса і іншыя ўстановы. Пры ўсіх намаганнях па адраджэнні польскай мовы з боку грамадскіх структур працэс гэты вельмі марудны і вымагае значнай скаардынаванасці і высокай актыўнасці[5]. Важны элемент для агульнага вобразу польскай супольнасці – гэта фактычная міграцыя маладога пакалення ў Польшчу і іншыя краіны, прычым гэты працэс тычыцца перадусім найбольш свядомай часткі моладзі, уключанай ў кантэкст сучаснай польскай культуры. Пры ўсёй адрознасці і ў пэўнай ступені "вестэрнізаванасці" польскай меншасці яна застаецца вельмі моцна інтэграванай ў беларускае грамадства перадусім праз моўны, эканамічны і сацыяльны фактары. Адзінай выразнай адметнасцю палякаў, якая праяўляецца на штодзённым узроўні, застаецца высокая ступень рэлігійнасці і ангажаванасці ў каталіцкае жыццё.

Варта таксама звярнуць увагу на параўнанне польскай меншасці з іншымі этнічнымі меншасцямі Беларусі і ступень ўзаемадзеяння,

[4] Арганізацыйна афармілася ў 1995–1996 г. і працягвае традыцыю арганізацыі, якая ўтварылася ў 1906 г. у Каралеўстве Польскім (Historia Polskiej..).
[5] Musijenko, 1999: 19–26; Kryszyn, 2000: 89–93; Праблематыка польскай меншасці ў Брэсцкай вобласці разглядаецца ў асобным зборніку: Bobryk, 2004.

каардынацыі з адпаведнымі арганізацыямі[6]. У рэгіянальным кантэксце найбольшы вынік можа даць кампаратыўны аналіз з польскімі супольнасцямі Літвы (Kurcz, 2005; Sienkiewicz, 1999: 43–63), Латвіі (Grędzik, 1999: 123–128) і Украіны (Bonusiak, 2008: 21–32), якія маюць падобны гістарычны досвед і праблемы, але знаходзяцца ў даволі адрозных умовах палітычнага і грамадскага жыцця ў сваіх краінах.

***Бібліяграфія***

1. Донских, С. (2004). "Поляки и "польскость" в истории Беларуси: опыт социокультурной типологии", в Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi. Materiały II międzynarodowej konferencji naukowej, 16–18 listopada 2001. Grodno.

2. Кручковский, Т. (2011). *Польская проблематика в русской историографии первой половины XIX в.: историческая тематика и польский вопрос.* Гродно.

3. Мазько, Э. (2004). "Этнічныя стэрэатыпы ў Беларусі ў 1939–1941 гг.", w Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi. Materiały II międzynarodowej konferencji naukowej, 16–18 listopada 2001. Grodno.

4. Навуменка, Л. (2002). "Этнічная ідэнтычнасць палякаў у Беларусі", *Гістарычны альманах,* т. 6. Гародня: Беларускае Гістарычнае Таварыства.

5. Национальный статистический комитет Республики Беларусь (2011). Перепись населения 2009. Национальный состав населения Республики Беларусь, т. III. Минск.

6. Пушкін, І. А. (2007). *Нацыяльнальныя супольнасці Беларусі: грамадска-палітычная і культурна-асветніцкая дзейнасць (1990-2005 гг.).* Магілёў.

7. Bobryk, Adam (red.) (2004). B*lisko, a tak daleko. Polacy w obwodzie brzeskim na Białorusi.* Siedleckie Towarzystwo Naukowe, Stowarzyszenie „Wspólnota Polska". Siedlce Warszawa.

8. Bonusiak, A. (2008). "Społeczno-polityczne aspekty funkcjonowania Polaków w niepodległej Ukrainie", w Adam Bobryk (red.), Życie społeczne Polaków na Wschodzie. Wybrane zagadnienia. Siedlce.

9. Gawin, T. (2003). *Zwycięstwa i porażki. Odrodzenie polskości na Białorusi w latach 1987–2000.* Białystok.

10. Gawin, T. (2010). Polskie odrodzenie na Białorusi 1988–2005. Białystok.

[6] Гл. больш: Пушкін, 2007: 32–70.

11. Gorbaniuk, J., Gorbaniuk, O. (2005). "Postrzegane przyczyny i konsekwencje wprowadzenie języka białoruskiego do liturgii mszy św. w Kościele katolickim na Białorusi", w Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi. Materiały III międzynarodowej konferencji naukowej. Grodno.

12. Grędzik, A. (1999). "Odrodzenie i stan aktualny szkolnictwa polskiego na Łotwie", w A. Bobryk i J. Jaroc (red.), Polskie odrodzenie na Wschodzie. Siedlce.

13. Historia Polskiej Macierzy Szkolnej w Grodnie, URL (доступ 26.11.2011): http://www.pmsgrodno.org/content/view/335/1/

14. Kabzińska, I. (1999). *Wśród „kościelnych Polaków". Wyznaczniki tożsamości etnicznej (narodowej) Polaków na Białorusi.* Warszawa.

15. Kruczkowski, T. (2003). *Polacy na Białorusi na tle historii i współczesności.* Słonim.

16. Kryszyn, T. (2000). "Polacy-twórcy na Białorusi", w A. Wilkon (red.) Polacy w kulturze świata. Polacy twórcy w kraju zamieszkania. Warszawa, Materiały z III Forum Oświaty Polonijnej Paryż 5–8 lipca 1999. Warszawa.

17. Kurcz, Z. (2005). *Mniejszość polska na Wileńszczyźnie. Studium socjologiczne.* Wrocław.

18. Maźko, E. (2006). "Polacy na pograniczach Białorusi", w Irena Mikłaszewicz i Rūstis Kamuntavičius (red.), Razem w Europie. Kaunas.

19. Musijenko, S. (1999). „Polska kultura, szkolnictwo i edukacja na Białorusi" w A. Bobryk i J. Jaroc (red.), Polskie odrodzenie na Wschodzie. Siedlce.

20. Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi (2003). Materiały I międzynarodowej konferencji naukowej. Grodno.

21. Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi (2004). Materiały II międzynarodowej konferencji naukowej. Grodno.

22. Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi (2005). Materiały III międzynarodowej konferencji naukowej. Grodno.

23. Sienkiewicz, J. (1999). "Republika Litewska: tradycje Wielkiego księstwa Litewskiego czy Litwy kowieńskiej?", w A. Bobryk i J. Jaroc (red.), Polskie odrodzenie na Wschodzie. Siedlce.

24. Winnicki, Zdzisław J. i Gawin, Tadeusz (red.) (2009). *Polska mniejszość narodowa na Białorusi 1988–2009. Ocena minionego dwudziestolecia.* Białystok: wydawnictwo WSAP.

25. *Winnicki, Zdzisław J. i Gawin, Tadeusz (red.) (2010). Polska mniejszość narodowa na Białorusi. Związek Polaków na Białorusi w 20-lecie działalności.* Białystok: wydawnictwo WSAP.

Першы Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі
Працоўныя матэрыялы
Том 1 (2012)

The First International Congress of Belarusian Studies
Working Papers
Volume 1 (2012)


**Founders and Organizers**
*Political Sphere* Institute of Political Studies (Palityčnaja Sfiera) (Belarus)
Vytautas Magnus University (Lithuania)
Institute of the Grand Duchy of Lithuania (Lithuania)

*EuroBelarus* International Consortium (Belarus)
Belarusian Institute for Strategic Studies (Belarus)
*Našie Mnienije / Our Opinion* Expert Community web-site (Belarus)
*Novaja Eŭropa / New Europe* online magazine (Belarus)
*Arche* journal (Belarus)
*BelarusDigest* online magazine (United Kingdom)
*Flying University* program (Belarus)
Konrad Adenauer Stiftung (Germany)
Agency of Humanitarian Technologies/ Centre for Social Innovations (Belarus)
*East Politics Centre* public institution (Lithuania)


*Працоўныя матэрыялы Першага Міжнароднага Кангрэса даследчыкаў Беларусі, што адбыўся 23–25 верасня 2011 года ў Коўне, Літва. Тэксты прысвечаны актуальным даследаванням у галіне беларускай гісторыі, палітыкі, грамадства і культуры.*

*Working papers of the First International Congress of Belarusian Studies, which was held on September 23–25, 2011 in Kaunas, Lithuania. The texts cover topical research on Belarusian history, politics, society and culture.*


UDK 323.2(476)(063)
Fi319



Web: http://icbs.lt, http://icbs.palityka.org/
e-mail: icbs@palityka.org
Tel. (BY) + 375 29 673 32 96
Tel. (LT) + 370 68 63 11 46
Fax. + 370 37 20 38 58